Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 40. Вільня, 24 сьнежня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Перад выбарамі.

Надыходзяць сьвяточныя дні і адначасна з гэтым пачынаецца выбарная агітацыя. Розныя партыі і блёкі засыплюць нашу вёску сваімі праграмамі, сваімі газэтамі і адозвамі. Навыперадкі адзін перад адным розныя агітатары будуць старацца хваліць той альбо іншы сьпісак, а ўсе іншыя ганіць. Створыцца атмосфэра выбарчага хаосу, у якім серадняку-селяніну, за душу якога ідзе барацьба, будзе вельмі трудна разабрацца. Хоць сягоньня і немагчыма яшчэ прадбачыць, колькі ўсяго партыяў і блёкаў будзе запрапанована на выбар нашаму беларускаму сялянству, аднак, з усяго відаць, што барацьба ў нас разгорнецца паміж чатырма блёкамі. Якія-ж гэта блёкі?

Па-першае, правы блёк чыста польскіх партыяў, які выступаў у 1922 г. пад нумарам 8 і які празвалі „Хіенаю". У гэты блёк апрача польскіх эндэкаў увайдуць хадэкі, монархістыя і іншыя дробныя кансэрватыўныя польскія групкі.

Гэты правы польскі блёк не прызнаець зусім беларусаў і варожа адносіцца да кожнае праявы беларускага руху. У польскіх пытаньнях гэты правы польскі блёк зьяўляецца заядлым **праціўнікам Маршалка Пілсудскага.**

Зусім зразумелая рэч, што ніводзін з беларусаў за правы польскі блёк галасаваць ня будзе, а калі эндэцкія ксяндзы дзе-ня-дзе будуць старацца абаламуціць сваіх парахвіянаў і падсоўваць ім хіенскія нумаркі, то грамадзянства мусіць пратэставаць проціў такіх ксяндзоў, якія, заместа таго, каб займацца толькі і выключна рэлігійнымі справамі, лезуць у палітыку.

Адным словам, правы польскі блёк для нас, беларусаў, зусім не падходзіць і мы пераконаны, што на нашай вёсцы ён не здабудзе сабе галасоў.

Другі блёк, які будзе выступаць на выбарах — **гэта блёк нацыянальных меншасьцяў.**

У 1922 годзе — гэты блёк выступаў пад нумарам 16 і здабыў значны лік галасоў, правёўшы ў Сойм адзінаццаць паслоў. За шаснастку галасавалі тады ўсе большменш сьвядомыя беларусы, а ў блёк уваходзілі ўсе, бяз розьніцы напрамкаў, беларускія партыі. За пяць гадоў шмат чаго зьмянілася. Перш за ўсё стварылася гэтак званая „Грамада", якая зрабіла раскол сярод беларусаў і якая сягоньня ў **блёк нацыянальных меншасьцяў не ўвайшла.** Не ўвайшлі ў блёк і іншыя беларускія групы. І выходзіць, што блёк нацыянальных меншасьцяў зьяўляецца не такім, як у 1922 годзе, а значна меншым, бо туды ад беларусаў увайшла толькі нязначная група паслоў Ярэміча і Рагулі ды Хрысьціянская Дэмакратыя ксяндза Станкевіча. Тое самае мы бачым і сярод украінцаў, ад якіх у блёк увайшло толькі правае крыло, ці гэтак званае УНДО, якое популярнасьцю сягоньня сярод украінцаў не карыстаецца. Аб жыдох гаварыць

ня будзем. Яны разьбіліся на некалькі групаў. Тое самае і ў немцаў. Адным словам, „Блёк Нацыянальных Меншасьцяў“ пры надходзячых выбарах будзе вельмі непапулярны, бо складаецца ня з масаў народных, а з асобаў, якія хочуць быць пасламі і якія ня зьвязаны паміж сабою, а ні агульнаю ідэяю, ані агульнаю праграмаю. Блёк Нацыян. Меншасьцяў так сама, як і польская правіца, выступаець процiў Маршалка Пілсудскага.

Мы самым рашучым спосабам будзем выступаць **процiў блёку Ярэміча і Рагулі з жыдоўскімі сыяністымі і нямецкімі банкірамі,** бо ня можам дапусьціць, каб галасамі беларускага селяніна пракладалі сабе шлях людзі, якія нічога супольнага ня маюць з сялянствам.

Трэці сьпісак кандыдатаў на паслы, з якімі будзем мець дачыненьне, — гэта сьпісак, выстаўлены разьбіткамі „Грамады“. Сяляне павінны сьцерагчыся гэтага сьпіску ня толькі дзеля таго, што сярод агітатараў „Грамады“ шмат правакатараў і шпікоў, а і дзеля таго, што б. грамадаўцы працуюць за грошы камуністых і стараюцца ня так ужо аб выбарах, але аб тым, каб выкарыстаць выбары і засадзіць у турму якнайбольш нявінных сялян. Як і ўсе папярэднія блёкі, грамадаўцы моцна ненавідзяць Маршалка Пілсудскага.

Нарэшце, чацьвёрты блёк, блёк краёвы, блёк сялянскіх партыяў, у які ўступіла і наша Беларуская Радыкальная Народная Партыя. Гэты народны блёк Літоўска-Беларускіх земляў розьніцца ад іншых тым, што ў склад яго ўваходзяць усе сяляне бяз розьніцы нацыянальнасьці і веры, і ставіць чыста сялянскую праграму. Гэты блёк выступаець за Маршалка Пілсудскага і магчыма, што, дзякуючы гэтаму, да краёвага сялянскага блёку далучацца і іншыя радыкальныя групы прыхільнікаў Маршалка, як польскія, так і беларускія.

Само сабою, што, апрача вышэй названых блёкаў, будуць выступаць і іншыя партыі, але яны рашучага значэньня пры выбарах мець ня будуць.

Выбарная гарачка ўжо пачата. Сялянства павінна захоўвацца якнайбольш спакойна і разважна.

## Наша праграма:

1) **Аўтаномія Краю.**
2) **Зямля — мясцоваму сялянству.**
3) **Асьвета ў роднай мове.**
4) **Гаспадарчае адраджэньне.**
5) **Братэрства Народаў.**

# Праўда аб рэдагаваньні „Нашае Долі“.

(*Адказ на пісьмо С. Барывоя*).

У № 3 „Права Працы“ за 14 сьнежня надрукована пісьмо ў рэдакцыю некага пана Саўкі Барывоя, памешчанае ў газэце пад загалоўкам: „Справа рэдактарства «Нашае Долі»“. У гэным пісьме пан Саўка Барывой падае шэраг „фактаў“ аб першай беларускай часопісі „Наша Доля“, выдаванай у Вільні ў ~~1905~~—1906 годзе, якімі імкнецца пераканаць чытачоў, што Ф. Умястоўскі, які піша аб тым, што ён быў ініцыятарам і фактычным рэдактарам „Нашае Долі“ проста брэша і сапраўды ні з „Нашай Доляй“ ні з адраджэнскім рухам беларускім ня мае нічога супольнага. Як прыстала на супрацоўніка газэты, для якой найбольшым доказам зьяўляецца фальш, мана і лаянка, пан Саўка Барывой канчае сваё пісьмо гэтак: „Выдавецтва і рэдактарства „Нашае Долі“ якое *толькі цяпер* (?) прыпісвае сабе Ф. Умястоўскі, ёсьць звычайным самазванствам. каторае лёгка можа быць даказана дакумэнтамі ды пасьведчаньнем людзей, якія ў той час прымалі ўдзел у „Нашай Долі“ і жывуць на няшчасьце для пана Ф. Умястоўскага“.

Чытаючы гэнае пісьмо і ацэньваючы вартасьць „фактаў“, дадзеных панам С. Барывоем, прыпомнілася мне забытая ўжо адна гісторыя мінулых дзён. Калісь, год 30 таму назад, быў у Віленскім рэальным вучылішчы настаўнік гісторыі Брянцев. Прыслалі яго сюды з цэнтральных губэрняў Расеі са спэцыяльнай місіяй — русыфікаваць тутэйшую моладзь. І вось гэны самы знамяніты Брянцев іншы раз выхваляючы батюшку расейскага цара і паганячы ўсё мясцовае, дабрэхваўся да таго, што нават вучні другой трэцяй клясы лавілі яго на ілжы і сьмяяліся яму проста ў вочы. Ведама, гэта Брянцева вельмі злавала. І вось адзін раз, разгневаны на маладых бунтароў, якія не хацелі верыць яму, што „Сѣверо-Западный край“ зьяўляецца „*искони-русской землёю*“, знамяніты пэдагог накінуўся на аднаго з няверных Тамашоў з лаянкай:

— „*Ах ты, мальчишка, мразь,* — крычаў Брянцев, — *ты смеешь не верить мнѣ, человѣку науки. который написал исторію Россійскаго Государства, который сам факты сочиняет!*“...

І вось цяпер, чытаючы пісьмо С. Барывоя, які для выпаўненьня некай задачы „*сам факты сочиняет*“, павеяла на мяне духам русыфікатара — Брянцева.

Каб паказаць чытачом, якую вартасьць маюць „факты“ сучаснага Брянцева — пана Саўкі Барывоя, затрымаюся трошкі на іх.

Пан Саўка кажа, што *толькі цяпер* я прыпісваю сабе рэдагаваньне „Нашае Долі“. Не, пане Барывой, не цяпер, а прыпісваў заўсёды. Пісаў я аб гэтым у сваіх успамінах аб „Нашай Долі“, друкованых у штодзеннай газэце „Беларусь“, выходзіўшай у Менску ў 1919—1920 годзе (№ 47

## Абядненьне беларускага сялянства ў гэт. зв. Савецкай Беларусі.

Матар'яльны дабрабыт і заможнасьць сялянства знаходзіцца ў залежнасьці: 1) ад колькасьці ўласнай зямлі ў сялянскай працоўнай сям'і, 2) ад ураджайнасьці гэтае зямлі, адзінага варстату працы селяніна, 3) ад спосабу гаспадаркі на гэтай зямлі, ад таго, ці ўжываюцца добрыя гнаі ў патрэбным ліку і сельска-гаспадарчыя машыны, 4) ад цэнаў на сельска-гаспадарчыя прадукты, якія вывозіць на рынак вёска і ад цэнаў на прамысловыя вырабы, якія купляе вёска, і 5) ад велічыні падаткаў, сьцягваных з сялянства.

Бальшавікі скасавалі ў С. С. С. Р. прыватную ўласнасьць. Цяпер там ніводная сялянская сям'я ня мае зямлі ўласнай, якая-б пераходзіла з роду ў род. Сялянская сям'я карыстаецца толькі зямлёю, якая зьяўляецца ўласнасьцяй дзяржавы. Лік гэтае зямлі залежыць ад рабочых рук у сям'і і ад запасу зямлі ў найбліжэйшай акрузе. Бальшавікі зьліквідавалі абшарніцкія землі, але не раздалі іх сялянству на ўласнасьць, а толькі на карыстаньне. Яна можа быць у кожны мамэнт адабранай ад селяніна, калі гэта спадабаецца ўладам, або калі рабочых рук у сям'і паменшыцца. Апрача таго, бальшавікі шмат абшарніцкае зямлі ўзялі на стварэньне савецкіх гаспадарак г. зв. „Савхозаў", дзе працуець разам некалькі сем'яў, нібы арэндатары, нібы ўласьнікі, нібы парабкі. Ведама, што ня ўсё сялянства здаволіла свае патрэбы на зямлю ў бальшавікоў.

Як і перад вайною, дзесяткі тысяч сем'яў штогоду выяжджаюць у Сібір, каб мець магчымасьць працаваць на зямлі, якой не хапае ў сябе на Бацькаўшчыне. З Савецкай Беларусі выселена каля 14 000 дружын у далёкую халодную Сібір дзеля нястачы зямлі ў Беларусі. Хоць праўда і тое, што побач з высяленьнем беларусаў вялікія вучасткі зямлі, асабліва каля гарадоў, дзе зямля дае найбольшую карысьць, аддаюць жыдом, якія пазбаўлены пры камуністычных парадках сваіх варстатаў працы—прыватнага гандлю і якія знаходзяць апеку і падтрыманьне з боку камуністых больш, чымсьці іншыя нацыянальнасьці.

Такім чынам, бачым, што ў Беларусі пад камуністымі дагэтуль сялянства ня мае патрэбнае колькасьці зямлі і галоўнае, што зямля там ня ёсьць уласнасьцяй беларускага селяніна.

Ураджайнасьць зямлі тая самая больш-менш, што і перад вайною. Праўда, бальшавікі нібы даюць дапамогі на падняцьце сялянскае гаспадаркі, але грошы гэтыя ідуць, галоўным чынам, на „савхозы" і на разбудову жыдоўскіх гаспадарак. Беларускае сялянства мала карыстаецца з дзяржаўнай дапамогі. Ураджайнасьць сялянскіх гаспадарак дагэтуль яшчэ меншая, як перад вайною, хоць ужо шмат павялічылася ў параўнаньні з ураджайнасьцю ў 1920-22 г., калі камуністы дашчэнту зруйнавалі вёску падаткамі і грабяжамі, калі сялянства адмовілася сеяць і зьбіраць ураджаі, бо яны цалком адбіраліся ад сялян бальшавікамі.

Штучныя гнаі і машыны настолькі дарагія ў С. С. С. Р., што сялянства ня ў сілах купляць іх. Уздаражэньне сельска-гаспадарчых машынаў і штучных гнаёў выклікана тым, што расейскія хвабрыкі большай часьцяй зруйнованы, а ў тых, якія асталіся, вядзецца такая неразумная гаспадарка, што ўсе вырабы іх надта дорага каштуюць.

---

і 48 за 17 і 18 сьнежня 1919 г.) Перадрук гэных успамінаў быў зьмешчаны ў 1 і 2 нумарох „Беларускага Дня" за 7 і 13 сакавіка 1927 году.

Гэтыя ўспаміны мае, у якіх я зусім ясна кажу, што быў фактычным рэдактарам „Нашае Долі" і ініцыятарам яе — чытала ўся граматная Беларусь, у працягу васьмёх год ніхто ніколі гэтаму не пярэчыў, бо ўсім, хто меў якое-небудзь дачыненьне з „Н. Д.", было добра ведама, што напісанае ў іх зьяўляецца чыстай праўдай.

Пан Саўка Барывой кажа, што самазванства маё можна лёгка даказаць дакумэнтамі ды пасьведчаньнямі людзей. Цікаўна, якія гэта дакумэнты?. Ён іх называе: гэта матар'ялы да гісторыі „Нашае Долі", узятыя з царска-жандарскіх архіваў ды друкованыя ў месячніку „Полымя".

Я ня меў гэнага нумару „Полымя", аб якім кажа пан Саўка Барывой, і не магу ацаніць вартасьці таго, што напісана ў ім аб „Нашай Долі", так сама, як не магу ацаніць вартасьці матар'ялаў царска-жандарскіх архіваў. Ведаю толькі, у якіх абставінах знаходзіцца прэса ў Савецкай Беларусі. Абставіны гэтыя такія, што цяпер, напрыклад, ніводным словам ніводная беларуская часопіс на тэрыторыі Савецкае Беларусі ня можа заікнуцца аб ссылцы на Салавецкія астравы вядомага беларускага мастака-драматурга Ф. Аляхновіча, хаця нам усім добра ведама, што ён там сасланы, і дзеля гэтага чакаць ад бальшавіцкай прэсы бесстароннага асьвятленьня фактаў—могуць толькі Саўкі Барывоі.

Але ня думаю, каб якія-небудзь архівальныя матар'ялы маглі выясьніць, хто быў фактычным рэдактарам „Нашае Долі", дзеля тае простае прычыны, што Ян Тукеркес, выдавец газэты, з усей кампаніі, якая краталася каля „Нашае Долі", знаў толькі мяне аднаго. І, ня маючы сам ніякага паняцьця аб газэтнай працы, згадзіўся на выдавецтва „Нашае Долі" толькі пад варункам, што рэдагаваньне газэты я прыму на сябе. І ўжо я сам стварыў рэдакцыйную калегію, у якую запрасіў Цётку і братоў Лупкевічаў.

Пісаных умоваў у нас ніякіх ня было і дзеля гэтага думаю, што дакумэнты мала памогуць у выяшэньні справы рэдактарства „Нашае Долі".

Рэч іншая — жывыя сьведкі. Сьведкі гэтыя могуць даць сапраўды цэнны матар'ял. І сьведкаў гэных, жывых яшчэ не на маё „няшчасьце", а на няшчасьце пана Саўкі Барывоя—ёсьць шмат. Да сьведкаў гэных пана Саўкі Барывоя залічыць не магу і рашуча заяўляю, што пры „Нашай Долі" ніякі Саўка Барывой не працаваў.

Быць можа, пад Саўкай Барывоем хаваецца якая-небудзь іншая асоба, тады скіньце маску, пане Саўка Барывой, скажаце сваё праўдзівае імя і прозьвішча, тады будзем гаварыць.

Што да іншых сьведкаў, якія прымалі сапраўды блізкі ўдзел у працах „Нашае Долі", то вось яны: на сам перш Станіслаў Сымановіч — экспэдытар і адміністратар „Н. Долі". Жыве ён у Вільні пры Полацкай вуліцы 7 кв. 2, (працуе ў саюзе коопэратываў). Другі сьведка — Вацлаў

бальшавікі ня маюць прыватнага заграні́чнага гандлю, купляе і справаджвае машыны з-за граніцы сам урад і ён ставіць цэны пры прадажы гэтых машынаў. Цэны гэтыя такія самыя высокія, як за машыны свайго краёвага вырабу ў С. С. С. Р. Урад, такім чынам, мае вялікія даходы з замежнага гандлю, але даходы гэтыя сьцягваюцца з працоўных масаў, як і ў даўнія часы за цароў, толькі з тою розьніцаю, што перад вайною гэтыя машыны каштавалі таньней.

Сялянства можа падняць спосаб гаспадараньня на зямлі пры істнаваньні двух варункаў: калі мае за што купляць штучныя гнаі і сельска-гаспадарчыя машыны, і калі дзяржава памагае падняць спосаб гаспадараньня да вышэйшага культурнага роўня.

Для таго, каб селянін мог без дапамогі за свой кошт купіць усё тое, што трэба, для падняцьця культурнага роўня сялянскае гаспадаркі, ён павінен якнайвыгадней прадаваць прадукты свае гаспадаркі і купляць фабрычныя вырабы. Гэта ізноў залежыць ад таго, якія цэны на гаспадарчыя прадукты на рынку і як дорага мусіць плаціць за ўсе фабрычныя вырабы, якія мусіць купляць на свае патрэбы.

Разглядаючы з гэтага боку быт сялян, які істнуе ўва Ўвходняй Беларусі, мусім сьцьвярдзіць, што палажэньне беларускага сялянства благое і яго матар'яльны дабрабыт мала папраівіўся. Перш за ўсё, беларускі селянін ўва Ўсходняй Беларусі мусіць танна прадаць усе свае сельскія прадукты і, разам з гэтым, надта дорага плаціць за ўсе, фабрычныя вырабы, без якіх нельга абыйсьціся.

Як відаць з пададзеных ніжэй цэнаў, усе сельска-гаспадарчыя прадукты, якія прадаець вёска ў Менску шмат таньнейшыя, чымся ў Вільні, каля 50%. А здругога боку ўсе фабрычныя вырабы шмат даражэйшыя ў Менску, ніж у Вільні, даражэйшыя на 80-90%.

**Цэны ў Менску і ў Вільні.**

| | у Менску: | у Вільні: |
|---|---|---|
| Пшаніца . . . . . пуд | 7 зл. 20 гр. | . . . . . 8 зл. — |
| Жыта . . . . . . . „ | 4 зл. 70 гр. | . . . . . 7 зл. — |
| Авёс . . . . . . . . „ | 5 зл. — | . . . . . 6 зл. 80 гр. |
| Ячмень . . . . . . . „ | 6 зл. 90 гр. | . . . . . 8 зл. — |
| Бульба . . . . . . . „ | 1 зл. 50 гр. | . . . . . 2 зл. 50 гр. |
| Мука жытняя . . . кілё | — 35 гр. | . . . . . . — 65 гр. |
| Цукер (пясок) . . „ | 2 зл. 35 гр. | . . . . . 1 зл. 50 гр. |
| Цукер кускамі . . „ | 2 зл. 70 гр. | . . . . . 1 зл. 80 гр. |
| Алей . . . . . . . . „ | 4 зл. 20 гр. | . . . . . 2 зл. — |
| Цьвікі 4 цалёвыя „ | 1 зл. 05 гр. | . . . . . . — 60 гр. |
| „ 2 „ „ | 1 зл. 35 гр. | . . . . . . — 80 гр. |
| Боты простыя . . пара | 70 зл. — | . . . . . 40 зл. — |
| Чаравікі жаночыя „ | 40—50 зл. | . . . . . 25—30 зл. |

(Цэны паводле „Беларускай Вёскі“ № 101 з 24.XI.27.).

Такім чынам, беларускае сялянства пад бальшавікамі ня ў сілах падняцца матар'яльна, яно ня можа купляць патрэбнай колькасьці неабходных рэчаў, такіх, як цукер і інш., калі за 1 пуд жыта можа купіць толькі 2 кілё цукру.

А найгорш тое, што цана на сельска-гаспадарчыя прадукты ў Савецкай Беларусі, як і цэны на прамысловыя вырабы устанаўляе ўлада, цэны гэныя не рэгулююцца правам рынку і вольнай конкурэнцыі — такія „нажніцы“ ў цэнах зьяўляюцца вынікам гаспадарчае палітыкі бальшавікоў, якія імкнуцца да абядненьня вёскі, да зраўняньня ўсіх сялян з найбяднейшымі элемэнтамі ў вёсцы.

Выхаду з такога палажэньня для сялянства няма, пакуль над ім будзе вісець улада чырвоных камісараў.

Хай нашае сялянства ў Заходняй Беларусі добра над гэтым задумаецца і ўмее даць належны адказ усім тым, хто заклікае нашых сялян да спагаданьня камуністым. Яны давялі сялянства да таго, што „ў ботах селянін ходзіць толькі ў вялікае сьвята“, як сказаў нядаўна Чарвякоў.

---

Пашкевіч родны брат Алёізы Пашкевічанкі—Цёткі —жыве ў адлегласьці 9 кілёмэтраў ад Вільні на Лідзкім гасьцінцы ў фальварку Катлоўка, далей Вацлаў Іваноўскі — прафэсар Варшаўскага палітэхнічнага інстытуту, чацьвёрты Эдвард Будзька, вядомы коопэратар. Вось жывыя сьведкі, якія могуць сказаць, хто быў фактычным рэдактарам „Нашае Долі“.

Далей пан Саўка Барывой у пісьме сваім ламаецца ўжо ў адчыненыя дзьверы, кажучы, што за справу „Нашае Долі“, я ня быў сасланы ў Сібір.

Я аб гэтым ніколі, нідзе і не казаў. Я казаў і кажу, што быў сябрай Беларускай Соцыялістычнай Грамады і за працу ў грамадзе быў пацягнены да судовай адказнасьці. Я казаў і кажу, што суд прысудзіў мяне за гэту працу да пазбаўленьня ўсіх правоў і на вечную ссылку ў Сібір, я казаў і кажу, што справа гэная разьбіралася судом яшчэ два разы і, пачаўшыся ў 1905 годзе, скончылася ў 1912 тым, што мяне апраўдалі; я казаў і кажу, што ў працягу гэнага часу шмат прасядзеў у вастрозе — і гэта праўда, аб якой ведаюць і С. Сымановіч, і В. Пашкевіч, і В. Іваноўскі і Э. Будзька, ведае таксама і мой абаронца адвакат А. Ледніцкі, які жыве цяпер у Варшаве, ведаюць таксама ўсе старэйшыя адвакаты, якія ў гэты час жылі ў Вільні і жывуць дагэтуль, як напрыклад адвакат С. Багінскі, адвакат, былы сэнатар Крыжаноўскі і шмат-шмат іншых. Праўда, суд судзіў мяне за належнасьць да Соцыяль-Дэмакратычнай партыі. Але гэта справа суда, а да партыі П.П.С. так сама, як і да С.-Дэм., я ніколі не належаў, а належаў да „Бел. Соц. Грамады“, якая працавала ў блізкім контакце з П. П. С., дапамагаючай Грамадзе і грашыма і іншым. Для характарыстыкі гэнага контакту скажу, што наш грамадавец быў друкаром у нелегальнай падпольнай друкарні П.П.С., якая друкавала і нашыя адозвы. Друкар гэты і цяпер жыве і мог-бы таксама свае слова сказаць у гэнай справе, але бяз згоды не хачу называць яго прозьвішча.

Думаю, што пасьля гэнага выясьненьня майго, чытачы лёгка зразумеюць, колькі праўды зьмяшчае ў сабе пісьмо пана Барывоя, катарое рэдакцыя „Права Працы“ зьмяшчае з гэткай вялікай ахвотай, што робіцца зусім зразумелым, якую мэту мела гэтае пісьмо. Паны з „Права Працы“, схаваўшыся за плечы новае свае ахвяры, нікому невядомага А. Выдрыцкага, які за некалькі дзесяткоў злотых у месяц прымае на сябе абавязак падпісваць газэту і адказваць за грахі сваіх „хлебадаўцаў“, выдумалі — і гэнага Саўку Барывоя і ўсю яго ілжу, каб апаганіць і ачарніць нялюбага ім чалавека.

*Ф. Умястоўскі.*

## Люблю глядзець...

Люблю глядзець, як аганёк
Бяжыць па сьпісанай паперы.
І вось згарэў ужо лісток,
Як гінуць нашыя замеры.

Як гіне вера у людзей,
Як гінуць вартасьці ідэі,
Як цёпла сонца топіць сьнег,
Што ў гурбіну здмулі завеі.

Змагаецца яшчэ іскра,
Зьмяёй бліскучай сьпешна ўецца,
Ўжо гасьне, а яшчэ дрыжыць
І гіне... сьмерці паддаецца.

І згас агонь, няма іскры,
Застаўся толькі попел шэры,
Дый літары яшчэ відаць
І самы ўзор ліста паперы.

*Вітэблянін.*

## З „меншасьцямі“ прыязьнь, а з краёўцамі вайна.

Перад некалькі днямі адбыўся ў Варшаве зьезд асаднікаў з „Kresów Wschodnich“, на катарым было, як газэты падаюць, блізка 700 асаднікаў. Аб гэтым зьездзе ня мелі-б мы патрэбы і пісаць, коб ня тое, што зьявілася ў варшаўскай газэце „Epoka“.

У гэтай газэце ў артыкуле „Асаднікі — фундамант польскасьці на рубяжох Рэчыпаспалітай“ (Osadnicy, ostoją polskości na rubieżach Rzeczypospolitej) чытаем у справаздачы з гэтага зьезду, што прадстаўнік асаднікаў з Навагрудзкага ваяводзтва заявіў у сваёй прамове, што з „меншасьцямі“ сужыцьцё асаднікаў якнайлепшае, ён толькі скардзіўся на палякоў-краёўцаў, якія іх крыўдзяць і з якімі яны зжыцца ня могуць.

„Меншасьць“ — гэта мы, беларусы, між намі, беларусамі, і асаднікамі, значыць, істнуе прыязьнь, сужыцьцё, а краёўцы - палякі зьяўляюцца іх ворагамі. Справа гэная для нас, беларусаў, выдаецца вельмі дзіўнай. Бо мы, беларусы, лічым краёўцаў-палякоў за сваіх прыяцялёў, нас лучаць супольныя ідэалы і інтарэсы, для іх мы ня „меншасьць“, а *большасьць*, мы з імі — сыны аднаго краю. Мы іх знаем, ведаем чаго яны хочуць, а яны разумеюць нашыя імкненьні.

Асаднікі — гэта людзі новыя і чужыя нам, і калі яны зьяўляюцца ворагамі нашых прыяцялёў, дык ці-ж самі яны могуць быць нашымі прыяцелямі?

Краёўцы ведаюць, чаго хочуць. І калі яны ня могуць сужыцца і наладзіць супрацоўніцтва з асаднікамі, то нам здаецца, што мы, беларусы, заўсёды бліжэй станем да палякоў, краёўцаў, чымся асаднікаў.

## Няхай жыве братэрскі саюз беларускіх, польскіх і літоўскіх сялян.

## Апошняя Куцьця.

(Абразок).

Садзілася сонца за цёмны бор, рожавым колерам фарбуючы захад.

А цёмная просінь неба ўсё больш і больш выціскала рожавыя тоны, зьмяняючы іх на жалобны ліл*ьлёвы колер.

Сонца заходзіла крывава. Узмагаўся мароз. Галіны на прыдарожных дрэвах апраналіся ў белую вопратку.

Ў далі, на засыпаных сьнегам абшарах, відненіся вёскі, адна, другая; сівы дым простымі стаўпамі ўзьнімаўся з комінаў і слаўся лёгкімі хмаркамі ў марозным паветры. Па дарозе, якая ледзь значнаю ніткаю вілася ў ірдзістых прасторах, цягнулася старая бабулька.

Дзьве торбы, поўныя тым, што далі ёй добрыя людзі, моцна перашкаджалі ў хадзе.

Ішла яна, сагнуўшыся, папіраючыся сукаватым кійком.

Сівер агністым подзьмухам апальваў яе твар, мёрзьлі ногі ў лазовых лапцёх, але яна ішла. Ёй хацелася зьесьці куцьцю ў сваёй роднай хаце разам з дзяцьмі і ўнукамі. Яна ня крыўдзілася на іх, што тыя ня толькі пускалі, але нават і выпраўлялі яе жабраваць.

Дый што-ж у гэтым дзіўнага, гэткая сям'я, а зямлі амаль што няма. Летам яна сядзела ў хаце, усё-ж чым-колечы магла памагчы ў гаспадарцы; ці то малых даглядзіць, ці кароўку папасьвіць. А зімой? Толькі лішні ядун таго хлеба, якога ледзь-ледзь да вялікага посту хапала.

Што-ж было рабіць?

І яна ішла, прасіла, усё-ж неяк каля людзей і пражывала, хоць цяжка было цягаць старыя косьці і быццам неяк сумна колішняй, якой-ніякой, а ўсё-ж гаспадыні.

Але старая на гэта не зважала, яна ніколі ня жалілася на сваю долю. Ад яе вяяла нейкай дзіўнай рэзыгнацыяй.

Ад восені, да самых Каляд хадзіла яна, але на Куцьцю заўсёды цягнула-да хаты. Цяпер, ідучы дарогай, яна пералічвала, колькі ёй яшчэ засталося хады.

„Бабро̂ўнікі ўжо мінула... яшчэ Пятроўскі лясок, а там каля Савейкаў да хаты недалёчка, можна будзе пайсьці проста праз поле“... Ёй рысаваўся вобраз хаты. „Янкава жонка, хіба, куцьцю ўжо зрабіла, кісель аўсяны пэўна таксама гатовы, можа ўжо і печку засланіла. А дзеці мусі ходзяць па хаце і насамі чмышуць, уцягваючы пах розных прысмакаў, які ў кшталце пары даносіцца з печы. Яны штохвілю выбягаюць на двор угледзецца на неба, чакаючы першае зоркі, а разам з ёй і куцьці; галодныя бедакі, сёньня-ж посьцяць хіба праз цэлы дзень.

У хаце чыста прыбрана: падлога пасыпана дробненькім, жоўтым жвірочкам, печка вапнаю пабелена дый яшчэ якімі ўзорамі размалёвана;

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як уберагчыся ад пажару.

Многа, дужа многа, выпадкаў пажару бывае у нас на Беларусі, у нас, дзе яшчэ будыніны складаюцца з дзерава і з саломы, г. зн. з матар'ялаў вельмі гаручых.

Многа сялянскага дабра гіне падчас гэтых катастрофаў, даводзячы іх зусім да руіны і беднасьці. Але калі спытацца некаторых з сялян, хто гэтаму вінават, то яны забыўшыся мудрае прыказкі: „Сьцеражонага і Бог сьцеражэ“, скажуць: „Гэта Боскае дапушчэньне“. У істоце-ж рэчы тут найболей вінавата сялянская неасьцярожнасьць, а найболей нядбаласьць. Неасьцярожнасьць дзеля таго, што найболей з неасьцярогі вынікаюць гэтыя пажары, як прыкладам, пайшоў якісьці неасьцярожны гаспадар у гумно з папяросаю, альбо з люлькаю, закінуў агню ў салому і ўжо пажар, і ўжо згуба, калі ня цэлае вёскі, то паловы яе; альбо ня выцер коміна, загарэлася сажа і ўжо ізноў згуба, і многа-многа можна прывясьці гэткіх прыкладаў, калі пажары ў нас найболей вынікаюць з неасьцярогі, памінаючы тыя выпадкі, калі яны часам здараюцца з людзкое дзікае помсты, альбо з „Воскага дапушчэньня“, як з пяруна. Нядбаласьць нашых сялян выяўляецца ў тым, што яны ніколі ня дбаюць аб тым, каб на выпадак пажару быць з'арганізованымі, каб мець усе прылады, як бочкі, помпы і басакі, драбіны і сякеры, каб пры помачы гэтых прыладаў арганізована бараніцца проці пажару, як ён дзе-колечы здарыцца; тымчасам нашыя сяляне нярэдка глядзяць на пажарныя прылады, як на лішнюю рэч і, ня гледзячы на ўсе дапамогі з боку розных проціпажарных таварыстваў, як прыватных, так і дзяржаўных (як „Polska Dyrekcja Ubezpieczeń Wzajemnych“), ня рупяцца ніколі набываць гэтых, надта патрэбных, проста неабходных проціпажарных рэчаў. А калі іх часам некаторыя вёскі і набудуць, то зноў-жа ня надта рупяцца аб тым, каб гэтыя пажарныя інструмэнты былі спраўнымі, г. зн., каб падчас пажару можна было іх пусьціць у работу, не падпадаючы пад тое, што яны ўжо папсованыя.

Бо колькі-ж бывае такіх выпадкаў, што падчас пажараў помпы і іншыя інструмэнты аказваюцца зусім няспраўнымі, зусім няздатнымі да работы. Здарыўся, прыкладам, у якой-небудзь вёсцы пажар, у якогасьці гаспадара загарэлася ў коміне сажа, а ад гэтага загарэлася і страха. Узварушылася ад гэтага цэлая вёска, усе крычаць: „скарэй давай помпы бочкі і басакі!“, і вось пасьля доўгага чаканьня прыцягнулі нарэшце так патрэбныя для тушэньня пажару рэчы. Усе кідаюцца да іх, але, на гора ўсім, помпа ня дзеець, дзеля таго, што ўжо даўно дзеці адкруцілі шрубы і закінулі іх дзесьці, альбо ўжо даўно лопнула кішка ў помпе, з рассохнуўшай бочкі ўжо даўно выцякла вада; ўся вёска стаіць над папсованымі прыладамі і ня ведае, што рабіць, а тымчасам пажар шырыцца. Агонь з страхі першага гаспадара пераходзіць на страху бліжэйшай будыніны другога, а адтуль ўсё далей і далей.

Праходзіць гадзіна ці дзьве і на тым месцы,

---

гэта ўжо праца Ганулькі, яна бурачком гэтакія краскі малюе, што аж дзіва, быццам жывыя выходзяць... Але ўжо позна...“

І старая спынілася на хвілю, яна ўгледзілася на неба; а так ужо была пара пачынаць есьць, куцьцю.

На цудовым цёмна-сінім фоне неба, як брыльлянцістыя краскі казак, расьцьвіталі і расьпёрапушваліся, пераліваючы рознымі колерамі, вяночкі зораў.

Старая пачала сьпяшацца, але яна ўжо на добрае стамілася, і адзервянелыя ад марозу ногі ледзь-ледзь валакліся; няўжо яна спозьніцца на куцьцю? Ці хто мог здаць сабе справу з таго, як ёй хацелася за сьвятой вячэрай, сярод сваіх спаткаць сьвята Нараджэньня Хрыста. Сьвята Нараджэньня Таго, Які прынёс бедным і прыгнечаным пацеху, Які прынёс ім добрую навіну аб роўнасьці і братэрстве ўсіх людзей, Які, нованароджаны, таксама мёрз у стайні, Які таксама цярпеў зьдзекі багацейшых.

Ну, але-ж і мароз узьеўся сягоньня, гэты люты вораг бедных людзей, ён як шалёны, падганяны ветрам, бег па чыстым полі, трэскаючы ў крокввах стрэхаў і ламаючыся ў сьцены хатаў, скрыпеў, быццам грозячы загубіць і зьнічтожыць усё жывое.

Старая мёрзла, бо мароз марозам, але ў дадатак да яго пачынала сваю жаласьлівую песьню мяцеліца, зьбіваючы бабульку з ног і засыпаючы старыя, хворыя вочы жменямі вострых ільдзістых шпількаў.

Вось і Пятроўскі лясок, яна хутка міне яго, але заместа таго, каб пасьпяшыць, старая валаклася, што раз вальней. Неяк мінула і лясок, цяпер нацянькі, праз поле, пару вёрстаў і яна ў хаце, але ногі нешта пачынаюць адмаўляць паслухнянасьці і нейкая цёплая мляўкасьць, уступаючы месца рэзкаму холаду, разьліваецца па целе.

„Вось каб крыху супачыць, бо нашыя мусі ўжо пачалі куцьцю, усё роўна не пасьпею...“ І яна проста мімавольна прысаджваецца на гурбе пад кусточкам.

Хваля цяплыні і нярухомасьці ўсё больш і больш ахапляе яе, зацямняючы вочы.

Ногі вязнуць у сьнег, мяцеліца засыпае яго ўсюды, дзе можа і ў рукавы і за пазуху, але старая ня чуе холаду, яна трапіць прытомнасьць. Ёй здаецца, што яна ўжо ў хаце, вось неяк ужо і распранулася, атраслася ад сьнегу і цёпла і так слаўна зрабілася.

Дзякуй сынавой, садзіць яе каля сябе.

На стале сенца ляжыць, абруском беленькім накрытае, на ім гаршчок з куцьцёй стаіць і кісель аўсяны, і бурачкі з грыбамі, і селядцы, і бутэлька гарэлкі.

Каля стала ўсе ў зборы, бацька ўстае, малітву чытае, пасьля налівае чарку гарэлкі і выпівае, кажучы: „Дай, Божа, ў добрым здароўі сьвята правясьці“. Пасьля за куцьцю бярэцца, але перш за ўсё, старым звычаем, нясе поўную

дзе была вёска, застаецца нейкі сумны могільнік, на якім, як памятнікі, стаяць абгарэлыя каміны ды ляжаць кучы попелу. Сяляне застаюцца без страхі над галавою і без кавалка хлеба, адным словам, застаюцца жабракамі і ідуць па іншых вёсках прасіць помачы; расказваючы пры тым аб сваім горы, аб прычыне пажару, аб віне таго гаспадара, што ня выцер комінаў, забываючыся можа аб тым, што ў іх гэтак сама ня былі яны выцертыя, аб віне тых гаспадароў, што не дапільнавалі помпы, бочак і басакоў, забываючыся аб тым, што тут усе вінаваты, бо ўсім трэба глядзець і пільнаваць гэтага, але хто мог спадзявацца, што здарыцца пажар, калі яго болей як трыццаць гадоў ужо ня было!

Судзячы па гэтым усім, можна было-б думаць, што сяляне надалей будуць асьцярожнейшымі, што болей будуць рупіцца, каб у іх усё было ў парадку, але якраз усё выходзіць наадварот; трэба ім толькі забудавацца, як яны ўжо аб сваім папярэднім няшчасьці забудуцца, не спадзяючыся другога гэтакага самага выпадку.

Другая рэч, якая кідаецца ў вочы падчас пажару — гэта вялікая неарганізованнасьць і нядружнасьць пры тушэньні пажару; бо ў той час калі некаторыя з сялян стараюцца з усіх сіл перашкодзіць шырэньню агню, з небясьпекай для свайго жыцьця кідаюцца ў найболей небясьпечныя месцы, другія з сялян, якраз тыя, што з іншых вёсак зьбягуцца, стаяць сабе вялікаю масаю, нічога ня робячы, нібы радуюцца чужому гору і бядзе. Іншыя з сялян тае вёскі, дзе пажар здарыўся, заместа таго, каб разам, усімі супольнымі сіламі ратавацца ад агню, стараюцца, чым хутчэй вынесьці сваё рухомае дабро, ня гледзячы на тое, што гарыць аж на другім канцы вёскі і да іх будынкаў яшчэ далёка, а штож-бы было ўсім сялянам і з чужых вёсак і з свае, кінуцца да тушэньня пажару і затушыць яго супольнымі ўсімі сіламі, тады можа і ня трэба было-б загадзя выносіць і выганяць усё аж на другім канцы вёскі, можа тады здолелі-б усе разам затушыць пажар і ня даць яму пашырыцца, толькі трэба арганізованнасьці, толькі трэба дружнасьці.

Па-другое, нядбаласьць нашых сялян і іх неарганізованасьць і нядружнасьць выяўляецца і ў тым, што яны надта рэдка рупяцца забясьпечыць сябе ад „Боскага дапушчэньня", як ад пяруна, не стаўляючы каля сваіх будынкаў грамаадводаў. Бо-ж пажары ад пяруна надта часта здараюцца ў нас летам, альбо пад канец яго, калі ўжо ўсё сялянскае багацьце — збожжа, знаходзіцца ў гумнах, і калі на выпадак пажару ад пяруна гэтае ўсё сялянскае багацьце, гэта ўся іх крывавая праца можа пайсьці з дымам, робячы з заможных гаспадароў — жабракоў. А асьцерагчыся ж ад такога „Боскага дапушчэньня" ня надта трудна, трэба толькі паставіць на вёску з дзесяць грамаадводаў, што зрабіць ня надта трудна; трэба толькі паставіць магчыма найвышэйшыя стаўпы, закрапіўшы на іх версе мэталічныя неіржавеючыя прэнцікі, а ад гэтых прэнцікаў правесьці драты, канцы якіх укапаць у сырую зямлю, альбо ўпусьціць у студню, і ўжо маем будыніну сваю забясьпечаную ад пяруна; трэба толькі ведаць, што грамаадвод бароніць ад пяруна ў такім абводзе, які мае кола зробленае праменьнем пастаўленага стаўпа, дзеля гэтага аднаго грамаадводу на цэлую вёску мала, а трэба іх паставіць некалькі; грамаадводы маюць тую ўласнасьць, што сьцягваюць электрычнасьць з хмараў і адводзяць яе ў зямлю, паралізуючы гэтым яе шкоднасьць для

---

лыжку куцьці да вакна, Дзеда Мароза частаваць, каб уласкавіць яго крыху. Дык і прапануе яму страву, кажучы: „Марозе, марозе, хадзі куцьцю есьці, а калі ня йдзеш, дык ня йдзі на жыта, пшаніцу і ўсялякую пашніцу".

Ядуць усе куцьцю, прыкідаючы яе алеем, а там і кісель свае чаргі дачакаўся, а потым і селядцы і ўсё астатняе.

Ядуць паволі, смакуючы; старая толькі ўглядаецца да іх і дзівуе яе, што ніхто да яе словам не азьвецца, дзеці цягаюць з-пад абруса саломку і жыва спрачаюцца, чыя даўжэйшая, хто, знача, даўжэй жыць будзе і чыя больш няроўная сучкаватацістая, хто, знача, больш багатым і шчасьлівым будзе.

Ігнась з Антосем зьбіраюцца ў поўнач ісьці ў стайню слухаць, як кароўкі і коні чалавечаю мовай гамоняць; дык вось прычапіліся да маткі, ці нічога ім ад гэтага ня станецца, калі яны толькі троху паслухаюць; матка ім аб гэтым страшныя здарэньні расказвае і баяцца дзеці, туляцца адно да аднаго.

Пад вокнамі хаты калядоўшчыкі сьвятыя песьні пяюць, рэдка які з іх зацягне:

„Чаму ў цябе, ваўчок, лапкі доўгі?"
Каляда! Каляда!
„Чаму ў цябе, ваўчок, язычок тонак?
Каляда! Каляда!..,

Неяк сяньня больш сьвятыя песьні падыходзяць.

„Слаўна цяпер сядзець у цёплай хаце за куцьцёй"... — думае старая. Вось ужо куцьця і зьедзена. Янка бярэ апошнюю лыжку яе і кідае ў столь, шмат крупінкаў прыліпае да яе. — „Ну, знача, пчолкі ў наступным годзе павядуцца"—думае старая. Слаўна адпраўляецца куцьця. Хутка да царквы пойдуць, вось можа крыху перасьпяць.

І здаецца старой, што яна ўжо пасьля куцьці ў царкву трапіла.

Сьвечкі ясна гараць, аж у вочах мітусіцца, людзі такія радасныя, усьцешаныя. А шмат-жа іх зыйшлося, аж здавілі старую, але Божае Дзіцятка, Хрыстос Сам, ручкі да яе працягвае, кліча да сябе.

Рванулася старая ў гурбіне, расплюшчыла вочы, а зорка на небе вялікая такая заіскрылася і паляцела недзе ў бяздоньне, ізноў заплюшчыла вочы бабулька, заплюшчыла іх назаўсёды.

Рванулася мяцеліца, завіхрылася, засыпаючы замёрзлы труп старое жабрачкі. У далі, ў малой цэркаўцы азваліся званы і загудзелі пералівамі, калышучы марознае паветра і нясучы вестку ў прасторы аб сьвяце Нараджэньня Хрыста.

У хаце Янкі канчалі есьці куцьцю і дзіваваліся, чаму старая, якая заўсёды прыходзіла ў гэты дзень да хаты, ня прышла ў гэты раз.

Яны і няведалі, што дух яе за сьвятой вячэрай сьвяткаваў разам з імі прыходзіны вялікага дня.

Б.

будынкаў. Па-трэцяе ёсьць нядбаласьць сялян і ў самым рабленьні будынкаў, а ласьне ў іх пакрыцьці саломаю, якая зьяўляецца, як я ўжо казаў, матар'ялам вельмі гаручым, не перасьцерагаючыся і ў тым, каб будынкі стаўляць, як можна радзей, а салому, каб яна ня была гэтак гаручая, ня зьмешваючы з глінаю альбо з іншымі земляными мешанінамі праці́ўнымі паленьню.

Пералічваючы гэта ўсё, я другім разам пастараюся дакладна выясьніць усе недахопы, якія здараюцца ў нашых вёсках і якія ня надта працівяцца пашырэньню пажараў. *Гаспадар.*

## Як прыгатовіць добрую вангліну.

Вядома, што перад Калядамі многа колюць сьвіней і, як хто ўмее, гатовяць сала і вангліну, але ня ўсякаму гэта ўдаецца добра зрабіць ды пэўна кожны чуў, што найлепшае сала — гэта так званае „украінскае", а вангліна — „вэстфальская". Вось-жа раскажам, як гэта робіцца: першае — каб атрымаць украінскае сала — трэба карміць сьвіньні толькі збожжам і найбольш пшаніцаю і ячменем, што ў нас затрудна. Што датычыцца спосабаў кансэрваваньня (пасолкі і сушкі) сьвінога мяса, дык дзеля гэтага ёсьць тры спосабы: першы — саленьне сухою сольлю бяз усякага расолу, другі — солка сьвініны ў расоле і трэці — пампаваньне шпрыцам салянога расолу ў мяса.

Пры гэтым трэба заўважыць, што сьвініна ні ў якім выпадку не павінна саліцца, пакуль ня будзе зусім астыўшаю.

Астыўшую сьвініну або сала кладуць скураю ўніз на дно пасудзіны, якое пасыпаюць бурым пяском цукру і многа солі. На гэты рад сала кладуць другі, а на ём трэці, або кладуць кумпякі і перасыпаюць сольлю з цукрам. Соль ня трэба ўціраць у мяса. Уся работа ў тым, што кожныя тры дні перакідаюць сьвініну зысподу на верх. Гэтакая солка праз 2-3 тыдні канчаецца. На кожны пуд сьвініны даецца 3 ф. солі, $^1/_2$ ф. бурага цукру і $^1/_8$ ф. салетры. Пасьля сушаць і вангляць.

Другі спосаб — бяруць на 100 ф. *сала* 8 ф. солі, 2 ф. цукру і $^1/_{16}$ ф. салетры, дадаюць па смаку перцу і робяць расол на вадзе, і наліваюць у бочку, куды рэзанымі кускамі кладуць сьвініну, а кумпякі цэлымі. Сьвініну прыціскаюць кружкамі з каменем і трымаюць 3-4 тыдні, а самыя кумпякі нават да двух месяцаў.

Трэці спосаб — шпігаваньне расолам сьвініны. Дзеля гэтага бяруць на пяць вёдраў вады адзін пуд солі, цукру 3 ф., салетры 2 ф. і антысэптыну (Дугляса) 2 ф., і гэты расол шпрыцам да самае касьці кумпяка запускаюць у 7-9 месцах.

Вэстфальская вангліна соліцца гэтак-жа або сухім спосабам, дзеля чаго бяруць на кожны пуд сьвініны 3 ф. солі, $1^1/_2$ ф. цукру, $^1/_8$ ф. салетры і $^1/_4$ ф. тоўчаных ялаўцовых (Lunіperus komunіs) ягад, чым і пасыпаецца сьвініна. Пратрымаўшы ў солцы 3-5 тыдняў, сушаць на паветры, абмазваюць кумпякі цестам з жытняе мукі або нават кашкаю з прасеянага попелу і вангляць у добрай ванглярні 8-10 дзён. Чым вышэйшая ванглярня, тым лепш, каб мяса не запарылася. Дзеля вангленьня найлепш ужываць апілкі дуба і ялаўцовыя лапкі.

Зрабіўшы ўсё ўмела, вангліна ня будзе псавацца, ня будзе сухою і цьвёрдаю, і доўга можа перахоўвацца. *Я. Х.*

## Як даглядаць гусі.

Вядома, колькі карысьці і даходу даюць нам гусі, ня кажучы ўжо аб яйках, а бяручы пад увагу толькі пер'е, пух, мяса і шмалец, якія заўсёды надаюцца ў гаспадарцы і заўсёды могуць знайсьці купца.

І дагляд за гусямі невялікі, калі параўнаць яго з даглядам за курамі.

Гусі, гадованыя на прадажу, ці сабе на ўжытак, пасьля таго, як яны крыху падпасуцца на іржышчы, падскубваюцца, бо ў гэты час яны пачынаюць губляць пер'е, і засаджваюцца ў куратнік.

Кормяцца збожжам, ячменем, ці аўсом, які ставім ім у карытцы, побач з іншым судзьдзём, у якім прыгатоўлена для іх вада.

Можна яшчэ іх адкормліваць клёцкамі, якія робяцца з ячменных, ці аўсяных вотрубяў, даючы спачатку аднэй гусцы ад 4-х такіх клёцак таўшчынёй у палец, 6 разоў на дзень, да 10-ёх таксама 6 разоў на дзень, павялічваючы порцыю павольна з дня на дзень. Пасьля сёмага дня, ліку даваных клёцак не павялічваем. Гэта знача, у працягу дня гуска дастае 60 клёцак, па дзесяць праз тры гадзіны.

Кармленьне канчаецца праз тры-чатыры тыдні. Гуска, якая перад кармленьнем важыла, напр., 14 фунтаў, будзе важыць 20-22 фунты.

Заўсёды, калі ідзем даваць гусям есьці, трэба памацаць іхняе валё, калі яно поўнае, дык новае порцыі даваць няварта.

Разводзіць гусі так сама нятрудная рэч. Гняздо робіцца звычайна з нейкага кубліка і ставіцца ў цёплым месцы. За падсьцілку ўжываем салому, ці дробны торф, часта зьмяняючы яго.

На разводку ўжываем найбольшыя і найздаравейшыя гусі. Ужо ў лютым, а нават у студні гусі пачынаюць нясьціся.

Перад носкаю, гуска высьцілае сваё гняздо, і кожнае зьнесенае яйко старанна закрывае саломай.

Лік зьнесеных яек залежыць ад заводу гусей: простыя нясуць па 10-15 яек, а гарбаносыя да 50-ёх.

Калі гуска ўжо сядзіць на яйках, мусім даглядаць за тым, каб яна зыходзіла паесьці збожжа і выпіць вады; сядзяць гусі 28-30 дзён. Вылупіўшыхся гусянят, калі яны ўжо абсохнуць пад гускай, садзім у кошык, высланы чым-колечы мягкім і ставім у цёплае месца. З гускай у кублe трымаем гусяняты 6-7 дзён; калі на двары цёпла, дык пасьля гэтага можам выпусьціць іх пагуляць.

Па аднэй пары па вылупленьні кормім гусяняткі, вараным пасечаным яйком.

Пасьля дадаем да яйка маладой крапівы, агулам якой-колечы травы, пасьля дадаем чорстваго хлеба, нейкае кашы і ўжо праз месяц можна даваць дзёртае на жорнах збожжа. Крыху пазьней маладыя гусі дастаюць тую самую пажыву, што і старыя гусі. *S.*

## Да ведама ўсім, хто хоча купляць гаспадарчыя машыны і прылады.

Рэдакцыя гэтым падае да ведама ўсіх падпісчыкаў і чытачоў, якія цікавяцца, як найлепш купіць сельска-гаспадарчыя прылады і машыны, што фірма „Зыгмунт Нагродзкі“, Вільня, Завальная 11-а — прадаець усе гаспадарчыя машыны і прылады на такіх варунках:

Пры заказе плаціца $^1/_3$ сумы кошту гатоўкай, $^2/_3$ сумы трэба заплаціць у працягу 3-4 месяцаў, а калі заказана на суму болей як 300 зл., дык у працягу 6 месяцаў. Да сумы, якая маець быць сплачвана пасьля атрыманьня заказу, далічваецца 1% месячна.

Пры заказах трэба прысласць у фірму „Зыгмунт Нагродзкі“ пасьведчаньне воласьці аб тым, што заказчык зьяўляецца ўласьнікам сельскае гаспадаркі. Сябры сельска-гаспадарчых гуртkoў маюць скідку з цэньнікавай цаны.

Цэньнік на ўсе машыны можна атрымаць ад фірмы З. Нагродзкі, куды трэба зьвяртацца.

## Сеяньне яблычнага насеньня і перасаджваньне ўзышоўшых дзічак.

Яблычныя, грушавыя, вішнёвыя і сьлівавыя дрэўцы размнажаюцца насеньнем, якое з аднолькавай памыснасьцю можна сеяць увосень, як і вясной, дзеля таго, што ўсход яго залежыць больш ад грунту і якасьці насеньня, ніж ад часу сеяньня. Трэба яшчэ ведаць, што яблычнае, грушавое, вішнёвае і сьлівовае насеньне можа праляжаць у зямлі цэлы год, а то і больш, ня ўсходзячы, так што ня трэба закідаць засеянае школкі і не перакопваць зямлі, ня ўбачыўшы які год, а то і больш уcходаў. Перад сеяньнем трэба ўпэўніцца ў добрай якасьці і ўсходжасьці насеньня; добрае насеньне можна пазнаць па смаку і па вонкавым выглядзе: яблычнае мусіць быць колеру чорна-бурага і ігрушавае амаль што чорнага. Да сеяньня або саджаньня ўвосень трымаць трэба насеньне ў прахладным, толькі ня вільготным месцы і ў выпадку, калі яно пачне пакрывацца плесьняй—асьцярожна перасушваць. Хто мае замер сеяць насеньне вясной, то трымаць да гэтага часу можна яго ў якім-небудзь начыньні, да якога насыпаць чорнай і сухой зямлі, зьмешанай напалову з пяском у адзін вяршок таўшчыні, на якую складаецца насеньне, прыблізна ў $^1/_4$ вярш., пасьля ізноў зямлі і насеньня; гэткім чынам, насыпаецца аж да верху і прыкрываецца ўсё гэта драўляным днічком. Начыньне гэтае трэба ў працягу ўсяго часу трымаць таксама ў месцы прахладным. Фруктовае насеньне можна сеяць або садзіць. Апошні спосаб размнажэньня можа крыху і лепшы, бо можна садзіць раўнамерна, на што менш трэба насеньня, а пры сеяньні зярняты могуць усходзіць кучкамі (сеяць трэба рэдка і пасьля ўсю баразну засыпаць зямлёй вяршкі ў паўтары, каб пазакрываць насеньне). Садзіць-жа трэба гэтак: у даўжыню ці папярок баразны робяцца раўкі вяршкі ў паўтары глыбіні, ў якія кладуць раўнамерна зярняты, вяршкі чатыры адно ад аднаго. Засадзіўшы ўсе раўкі, трэба іх засыпаць зямлёй, забаранаваць граблямі, прыстукаць ня вельмі моцна рыдлёўкаю і паліць вадой праз лейку; калі хто ня мае лейкі, то праз сіта. Пасьля ўсяго гэтага трэба налажыць на баразны фашыны, дзеля таго, што птушкі, а таксама і куры вельмі любяць у сьвежай і мягкай зямлі капацца, і могуць павырываць і паесьці зярняты; як насыпецца сьнегу, то трэба яго абтаптаць, каб пад фашынаю не гнязьдзіліся мышы. Пасьля вясеньняга саджэньня, прыкрыць трэба баразны саломай або даволі густа фашынаю, пад якою зямля застаецца заўсёды вільготнай, што спрыяе прыжыцьцю насеньня. Як насеньне пачне ўсходзіць, то трэба паволі зьнімаць пакрыўку, каб прызвычаіць далікатныя расткі да соўнечнага сьвету, і калі пагода даволі доўга стаіць добрая і рэдка бываюць дажджы, то можна, а нават і трэба, іх час ад часу, ў меру патрэбы, паліваць.

Пры гэтым трэба яшчэ зазначыць, што ўсялякая трава, якая ахвотна гнязьдзіцца ў сьвежавырабленай зямлі, вельмі шкодзіць усходам зярнят, выцягваючы з зямлі пажыўныя сокі і заглушаючы кволыя расткі, дзеля чаго трэба гэтую траву абавязкова вырываць.

Перасаджваньне прыжыўшых, узыйшоўшых дрэўцаў мусіць быць раньняй вясной, пакуль яшчэ не распусьціліся почкі; можна іх перасаджваць таксама і ўвосень, у пачатку кастрычніка, але лепш рабіць гэта вясной, бо ўвосень маразы могуць зашкодзіць дрэўцам, яшчэ не запусьціўшым у грунт карэньняў. Выкапаныя з зямлі маладыя дзічкі трэба прыкрываць якім-небудзь лапном, каб сонца або вецер не зашкодзілі, і трымаць іх прыкрытымі да новага саджэньня. У выкапаных дзічках для перасаджваньня трэба абрэзаць патроху даўжэйшыя карэньні і абавязкова пакараціць амаль што напалову галоўны корань (які ёсьць як-бы прадаўжэньнем дрэўца і расьцець простападна ўніз). Гэтыя абрэзаныя часткі галоўных карэньняў можна таксама пасадзіць у зямлю, з якіх вырастаюць дзічкі; пры гэтым дагляд за імі павінен быць такі самы, як і за пасаджаным насеньнем. У ігрушавых, сьлівовых і вішнёвых дзічках галоўнага кораня не пакарочваюць.

Перасаджваць маладыя дрэўцы можна гэтак: у прыгатоўленым так сама, як і для саджэньня насеньня, грунце выкопваюць ямкі, велічыня якіх залежыць ад карэньняў дрэўца, і, не абтрасаючы зямлі з карэньняў, трэба іх асьцярожна ўстаўляць у выкапаныя ямкі. Ямкі павінны быць даволі вялікія, бо ў праціўным выпадку могуць пакорчыцца карэньні, пры гэтым канцы іх трэба скіраваць уніз. Засыпаўшы зямлёй карэньні дрэўцаў, трэба зямлю крыху абціснуць, каб ня было каля карэньняў пустога месца. Ямкі для перасаджваньня дзічак павінны быць на 1 аршын адна ад аднэй. Некаторыя галінкі, калі іх ёсьць замнога,—можна абрэзаць.

Дзічкі трэба садзіць крыху глыбей, чымся яны расьлі ў бараздах. Перасадзіўшы гэткім чынам дзічкі, трэба ў гэты самы дзень пад вечар паліць карэньні вадой і палажыць паміж дрэўцамі гною ў вяршок таўшчыні, які, апрача таго, што дае шмат карысных для далейшага разьвіцьця сокаў, трымае пад сабой вільгаць. Калі ад паліваньня дрэвак патрэскаецца пад імі зямля, то месцы гэтыя трэба засыпаць дробнай зямлёй, разбіўшы перад гэтым крыху старую зямлю. Некаторыя сяляне, якія па вёсках займаюцца садаводзтвам, не перасаджваючы дзічак, прышчапля-

юць іх на бараздах; гэтыя дрэўцы не дадуць у будучыні пажаданых вынікаў, дзеля таго, што добрымі мочкі карэньняў могуць быць толькі пасьля некалькіх перасаджваньняў. *Г.*

## Як і чым корміцца расьліна.

Земляроб можа часта забывaецца аб тым, што галоўным таварышом яго працы і жыцьця — ёсьць расьліна.

Возьмем толькі пад увагу, што ўсё, што земляроб патрапіць вырабіць і выпрацаваць, усё, што складаецца на яго дабрабыт — паходзіць ад расьліны.

І хлеб, і каша, і бульба — гэта ўсё расьлінныя прадукты. Мала таго, жывёла з каторай земляроб мае мяса, малако, сланіну, скуру і працу — корміцца толькі расьлінамі. Адзежа земляроба таксама паходзіць ад расьліны. Адным словам, расьліна зьяўляецца мэтаю працы земляроба і крыніцай яго дабрабыту.

Земляроб, сын зямлі, гадуе і абрабляе карысныя расьліны, даглядае іх і зьбірае плады. Дзеля гэтага павінен добра ведаць патрэбы расьлінаў і іх спосаб жыцьця.

Земляроб павінен глядзець на расьліну, як на жывучае стварэньне, якое мае свае патрэбы і свае правы. Толькі добра разумеючы жыцьцё і патрэбы расьлінаў, патрапім іх гадаваць з вялікай карысьцяй.

Расьліна жыве, як іншае, стварэньне, толькі іначай. Расьліна патрабуе корму, паветра, вады, толькі прымае іх іначай, як іншыя Божыя стварэньні.

Навука цяпер дасьлядзіла дакладна тайнікі жыцьця расьлін. Земляроб павінен карыстаць з досьледаў навукі аб жыцьці расьлін, каб мог іх якнайлепей гадаваць і дачакацца ад іх якнайвялікшай карысьці.

Паглядзім-жа, як жыве расьліна. Калі кінем зярня ў зямлю, абагрэтую сонцам і вільготную, яно пачне прарастаць, пушчаць расткі, як кажуць. Кожны ведае, што расткі расьліны ідуць (растуць) у двух напрамках. Барадаты корань стараецца якнайбольш заглыбіцца ў зямлі, а расткі ідуць у другім напрамку, стараюцца якнайхутчэй прабіць верх зямлі і выглянуць на сонца, а як толькі нос з-пад зямлі высуне, робіцца зялёным і пачынае расьці да гары. Ведаем, чаму так дзеецца.

Пры помачы караня расьліна дастае патрэбную ваду і дастае патрэбную ежу. Пры помачы сваіх зялёных часьцей дастае таксама вельмі важны і галоўны корм. Кормам гэтым, каторы расьліна бярэ з паветра, зьяўляецца *вугаль.*

Скажаце, а дзе-ж той вугаль у паветры? Трэба ведаць, што паветра ў складзе сваім мае вугаль. Вугаль гэты ёсьць у паветры ў постаці газу, гэта т. зв. вуглявы квас (окісь углерода), той самы, які паўстае пры паленьні вугля. Вуглявы квас заўсёды знаходзіцца ў паветры, хаця ў невялікай колькасьці (0,03%). Зялёнае лісьцьцё расьлін мае здольнасьць зьбіраньня вугля з паветра пры помачы коскаў сонца. З вугля расьліна будуець як-бы сваё цела. Бо, калі мы расьліну будзем паліць, то найперш адтрымаем вугаль. Вугаль зьяўляецца складовай часьцяй цела расьліны. У лісьцьці расьліны вугаль замяняецца на крахмал, які ў далейшым працэсе ўходзіць у склад цела расьліны і будуець яе клетачкі.

Але ня толькі вугаль патрэбны для жыцьця расьліны. Патрабуе яна і іншых кормаў. Усе іншыя кормы дастаець расьліна з зямлі. Карэньні расьліны здабываюць для яе патрэбную ежу.

Якія-ж гэта кормы?

Навука дала ўжо даўно на гэта адказ. Для жыцьця свайго кожная расьліна патрабуе, апрача вугля, які дастаець з паветра, шмат іншых кормаў. Кормы гэта мінэральныя, ёсьць іх шмат, вось яны:

| | |
|---|---|
| 1) азот | 4) вапна, |
| 2) фосфар, | 5) жалеза, |
| 3) паташ, | 6) серка. |

Гэтыя мінэральныя прадукты знаходзяцца ў зямлі ў постаці соляў. Карэньні расьлінаў усысаюць у сябе і пушчаюць у бег расьліныя сокі.

(*Працяг будзе*).

*Аграном.*

## Гігіенічна-ратаўнічы аддзел.

### Спадчыннасьць.

Мы гадуем быдла, падбіраючы пароды з тымі прыметамі, якія нам патрэбны, і кожны ведаець, што з благіх і слабых пародаў ня можна адразу адтрымаць добрае жывёлы. Такім спосабам мы можам паступаць дзеля таго, што прыметы, як добрыя, так і благія, перадаюцца ў быдла з патомка на патомка, як спадчына.

Падобная рэч дзеецца і ў людзей. Усім добра ведама, што ў вёсцы ёсьць сем'і спэцыяльна хітрыя, разумныя, марудпікі і гэтак далей, і гэтыя прыметы перадаюцца спадкова з пакаленьня ў пакаленьне. „Такая ўжо іх злосная парода“, — кажуць, — „у іх усе такія гарачыя“. Сын амаль заўсёды, хоць крыху, падобны да сваіх бацькоў, але часам родзяцца дзеці, якія, як дзьве каплі вады, бываюць і з твару і з характару падобны да дзеда, ці аднаго з прадзедаў. Здароўе даўгалетнасьць, псыхічныя здольнасьці (як здольнасьць да музыкі) перадаюцца спадкова. Ведамая радня Бахаў і Моцартаў, дзе з пакаленьня на пакаленьне родзяцца здольныя і вялікія музыкальныя сілы. Вядома шмат сем'яў і родаў праступнікаў, дзе родзяцца толькі праступнікі і дэгэнэраты. Навука кажа, што патомак можа радзіцца з усімі прыметамі толькі маткі, а нічога ня ўзяць ад бацькі. Можа таксама радзіцца з усімі прыметамі толькі бацькі, а нічога не адтрымаць ад маткі, і можа радзіцца мяшанцам, узяўшы частку прыметаў ад маткі, а частку ад бацькі, што ў людзей здараецца найчасьцей. Падобным спосабам перадаюцца некаторыя хваробы, з якіх найчасьцейшыя: хваробы псыхічныя, дальтонізм і гэмофілія. Спадковыя хваробы не заўсёды бываюць яўныя. Яны могуць істнаваць у даным родзе і ўсе, хто з яго паходзіць, могуць быць здаровымі. Яны толькі носяць у сабе як-бы зародак хваробы. Калі, аднак, і муж і жонка, абое будуць насіць у сабе гэты скрыты зародак хваробы, то іх дзеці будуць радзіцца хворымі на гэтую хваробу. Тады хвароба выходзіць на яў.

Гэтак бываець з псыхічнымі хваробамі, калі і матка і бацька — людзі здаровыя і разумныя, а сын родзіцца вар'ятам. Калі пашукаць у па-

мяці, то, калі гэта натуральна хвароба спадковая, можна ў радні, у бацькі і ў маткі, паміж іх продкаў, знайсьці чалавека хворага, псыхічна ненармальнага. Дальтонізм — гэта хвароба вачэй, перадаецца спадкова і палягаець на тым, што хворы не адрозьніваець колеру зялёнага ад чырвонага; такіх людзей ня прымаюць на службу на чугунку і іншую, зьвязаную з сьветавымі сыгналамі. Гэмофілія палягаець на тым, што кроў данага чалавека не засыхаець і досыць яго адрапаць шпількай і ён памрэ ад страты крыві, бо затрымаць яе няма ніякае магчымасьці. Цікавая гэтая хвароба дзеля таго, што хварэюць на яе толькі мужчыны, а перадаюць толькі жанчыны. Так што, калі хлапец родзіцца ад бацькі хворага, а ад маткі здаровай, то ён здароў, і яго наступныя пакаленьні ўжо вольныя ад гэтае хваробы. Дачка таго чалавека сама на хваробу — гэмофілію не хварэець, але калі здаровы чалавек ажэніцца з ёю, то яго сыны будуць хворыя. Гэмофілія, гэта хвароба паноў, бо ў беднага чалавека такія дзеці паміраюць ад недахопу дагляду. Аляксей, сын Мікалая II, як падаюць, быў гэмофілік. Пры гэмофіліі, калі адно з бацькоў здаровае, можа $1/4$ дзяцей выраджацца зусім здаровымі. Таксама, калі хвароба яўная, і ўкрытым зародкам у наступныя пакаленьні не перадаецца, то родзіцца $1/4$ дзяцей здаровых, вольных назаўсёды ад яе.

Дзеці сухотнікаў і алькаголікаў родзяцца здаровымі, але арганізм іх аслаблены, і яны маюць нахіл да гэтых хвароб. Сухотамі могуць лёгка заразіцца ад бацькоў. Дзеці алькаголікаў родзяцца дэгэнэратамі, вар'ятамі, а нават выраджаюцца праступнікі. Пранцамі дзіця заражаецца ў жываце хворае маткі.

Няхай кожны памятуець, што, неразумна гублякочы здароўе, мы растрачваем ня толькі свае сілы і розум, але таксама сілы і розум будучых пакаленьняў нашага народу, дзе сілы так будуць яшчэ патрэбны. *Я. П.*

# Карэспандэнцыі.

### Наша вёска.

*(Гулі, Пастаўскага пав.).*

Цяжка жывецца нашаму селяніну. Кожны месяц плаці новыя ды новыя падаткі. Заработкаў няма нідзе, а плаціць трэба. Кожны грош патрэбна здабываць за пуд дабра, а пудоў не заўсёды ў нас хапае. Ураджай сёлета ў нас слабы, Яшчэ жыта, то хоць насеньне вярнулася, а ярына, то зусім прапала. Шмат ёсьць такіх гаспадароў, што і да Каляд хлеба ці хопе. А там чакай зноў новага. Кожны год усё страшнейшы, палоскі вузеюць і людзі бяднеюць. Бываюць такія гаспадары, што на'т і з бараной на сваей паласе павярнуцца нельга. Ну, і дзе тут вырабіць гэткую паласу? Як-небудзь запоўзае і кажа: „калі Бог дасьць, то і бяз вырабу вырасьце". Але, відаць, і Бог пачаў нешта гневацца. Дажджэ селянін новага збору, то яшчэ горшы, чым мінулы. Каля аднэй мяжы ня вырасла, каля другой таксама, а пасяродку, дык і зьбіраць няма чаго. Наракаюць, наракаюць нашыя сяляне, то на жыцьцё, то на гады, але нічога не памагае. Год ад году чакаюць нейкай няведамай сілы, якая ім паправіць жыцьцё, а самі, дык ані думаюць.

Газэтамі і кніжкамі мала хто цікавіцца. „Нам трэба зямлі і прастору, а ня кніжак і газэтаў", — гэта першы адказ нашых сялян; „Бацькі і дзяды нашы ня зналі газэтаў, а як мелі даволі зямлі, то бяз хлеба не сядзелі"...

І запраўды, што тут вінаваціць сялян за гэткія адказы, калі яны цёмныя і нясьведамыя. Яны кажуць тое, што навучыліся ад сваіх бацькоў і што бачылі сваімі вачмі.

А асьветы яны яшчэ дагэтуль ня бачылі, дзеля гэтага ня ведаюць яе карысьці і вартасьці.

Але мінаюць тыя даўныя часы і цёмныя гэткія разважаньні. Моладзь пайдзе іншым шляхам, каб паправіць сабе дабрабыт.

Перш на-перш трэба ўзяцца за прасьвету, якая нас толькі зможа вывясьці на сьветлы шлях будучыні. З разьвіцьцём гаспадарчых арганізацыяў і роднага школьніцтва, разьвеецца той туман, які закрывае вочы беднаму селяніну і ён убачыць сонечны шлях, які павядзе яго да шчасьця. *Вясковы.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Беларускія лекцыі ў Варшаве.

Як нас паведамілі, стараньнем Славянскага Т-ва Хараства і Культуры ў Варшаве адбылася 9.XII г. г. лекцыя грам. Мікалая Грыгаровіча на тэму „З мінуўшчыны Беларусі".

### З Беларускага Студэнскага Саюзу.

Беларускі Студэнскі Саюз зьвярнуўся да ўсіх валасных і павятовых самаўрадаў нашага краю з просьбаю аб выдзяленьні матар'яльных дапамогаў беларускай студэнскай моладзі ў форме стыпэндыяў. Зьўляецца абавязкам усіх сьвядомых беларускіх радных, каб справу дапамогі беднаму беларускаму студэнству ўзялі шчыра да сэрца і пры ўкладаньні валасных і павятовых буджэтаў мелі на ўвазе справу ўстаўленьня адпаведных сумаў на беларускую студэнскую моладзь.

# Апошнія навіны.

**С. С. С. Р.** Конгрэс усерасейскае камуністычнае партыі скончыўся. Конгрэс выключыў з партыі важнейшых опозыцыянэраў, як Зіноўева, Радэка, Ракоўскага, Еўдакімава, Каменева, Пятакова, Лашэвіча, Муралава і шмат іншых, усяго каля 100 главароў опозыцыі. Група выключаных опозыцыянэраў у ліку 23 асоб падала просьбу аб прыняцьці іх назад у партыю. Аднак, конгрэс просьбы ня прыняў і выключаных опозыцыянэраў у партыю ня прыняў. Канчаючы нарады конгрэсу, Рыкаў заявіў, што партыйныя ўлады будуць вострa змагацца з выключанымі, як і наагул з опозыцыянэрамі, калі-б яны ўзялі акцыю проціў партыі. Улады будуць ужываць проціў іх тыя самыя спосабы барацьбы, якія ўжываюцца проціў іншых контр-рэвалюцыйных палітычных напрамкаў. Акт выключэньня 100 відных бальшавікоў сьведчыць аб глыбокім крызысе, які перажываець савецкая

дыктатура. Новы Ц. К. камуністых выбраны выключна з прыхільнікаў Сталіна.

**Нямеччына.** Конфэрэнцыя соцыяль-дэмакратычных партыяў краёў Усходняй Эўропы ў панядзелак скончыла свае нарады. Конфэрэнцыя ў справе польска-літоўскіх адносін вынясла рэзалюцыю, у якой, як мінімальныя дамаганьні адносна праектованых польска-літоўскіх перагавораў, высоўваець: скасаваньне закрыцьця граніцы, наладжаньне нармальных палітычных і эканамічных адносін між Літвой і Польшчай, і перш за ўсё ўвядзеньне паштовай, таварнай, асабовай і транзытнай камунікацыі і стварэньне часовай Камісіі, заданьнем якой было-б урэгуляваць юрыдычнае, палітычнае і гаспадарчае жыцьцё жыхароў гэт. званай нэўтральнай сфэры. Польска-нямецкія перагаворы, дзеля заключэньня гандлёвага дагавору пасоўваюцца наперад. У Нямеччыне проціў дагавору выступаюць вялікія абшарнікі, якія баяцца, што, па заключэньні дагавору, Польшча будзе магчы ўвозіць у Нямеччыну земляробскія плады па ніжэйшых цэнах. Другая важная справа, гэта справа контынгэнту вугля, які будзе абавязана прапускаць Нямеччына. Прамысловыя нямецкія сфэры баяцца, што, прапускаючы контынгэнт вугля з Польшчы, ў Нямеччыне, ўзрасьце безрабоцьце.

**Францыя.** Апошнімі часамі даецца заўважыць спроба навязаньня лепшых адносін між Францыяй і фашыстоўскай Італіяй. У Францыі знаходзіцца шмат палітычных эмігрантаў з Італіі, да якіх францускі ўрад адносіўся з прыхільнасьцяй. Эмігранты выдавалі свае часопісі, скірованыя проціў пануючага фашыстоўскага ўраду. І вось францускія ўлады забаранілі выдаваць антыфашыстоўскія часопісі. Гэта мае быць азнакай новага курсу францускай палітыкі ў адносінах да Італіі.

## ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ.

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

Прашу не адмовіць зьмясьціць у Вашай паважанай газэце ніжэй паданае:

У органе Паўлюкевіча „Беларускае Слова“ за 19 лістапада ў артыкуле „1%“ напісана, што я адзін са 100 радных, быўшых на яго знамянітым зьезьдзе, зьяўляюся здраднікам, правакатарам і жулікам, падасланым Грамадой.

Лаянкі „Беларускага Слова“ мяне ня дзівяць, бо „які поп — такі прыход“. Але ў гэным пісьме хачу выказаць усю ілжу „Беларускага Слова“, якое кажа, што Паўлюкевіч на зьезьдзе ў прывітальнай прамове нікога ня ганьбіў, што я ўпісаўся ў камітэт па справах самаўрадаў і што грамадзістыя за выступленьне маё ў газэтах проці Паўлюкевіча добра мне заплацілі.

Перш за ўсё, што датыча гэнага аднаго процанту здраднікаў, то мушу сказаць, што на зьезьдзе Паўлюкевіча было шмат аплачваных ім агентаў, якія мелі мандаты радных, як напрыклад Туромта, Ашмянскі і яшчэ некалькі, якіх знаю асабіста, але прозьвішча ня ведаю; а ці магу я ведаць усіх агентаў Паўлюкевіча?

Апроч таго, ведаю таксама шмат радных, якія так сама, як і я, былі заклікаsuccessfully на гэты зьезд і зусім не спагадалі „працы“ Паўлюкевіча, але дзеля розных прычынаў ня мелі адвагі, так як я, выступіць адкрыта проці яго ў газэтах.

Што „здраднікаў“ гэных, а, паводлуг мяне, ахвяраў Паўлюкевічавай маны не адзін процант, сьведчаць тыя рэзалюцыі зьездаў радных - беларусаў Баранавіцкага, Навагрудзкага і іншых паветаў, якія востра выступаюць проці „працы“ Паўлюкевіча.

Цяпер далей, што датычыць заявы „Б. Слова“, быццам Паўлюкевіч нікога ня ганьбіў у сваёй прывітальнай прамове. Так, у прывітальнай прамове ён ня ганьбіў нікога, але няхай ён прыпомніць, што казаў 7.XI раніцай а гадзіне 10-ай у сваёй „Беларускай Хатцы“, перад тым, як ісьці на зьезд; няхай прыпомніць, як паганіў усіх запраўдных беларускіх дзеячоў, не пакідаючы ніводнай сухой ніткі на ўсіх. хто не спагадае яго „працы“.

Трэцяе: „Б. Слова“ кажа, што я быў падасланы Грамадой і што Грамада мяне добра аплаціла. Рашуча заяўляю, што гэта выдумка Паўлюкевіча. Заклікаў мяне на зьезд яго агент, а не Грамада, з якой я нічога супольнага ня маю. На зьездзе я сядзеў, слухаў, і калі дазнаўся, што мяне ашукалі, то маўчаў да тэй пары, пакуль не адтрымаў грошай на праезд да хаты, бо ня мог я дзеля фанабэрыі пана Паўлюкевіча, ня маючы чым заплаціць за цягнік, ісьці 160 кілёмэтраў пехатою. Цяпер Паўлюкевіч называе мяне за гэта жулікам.

Дык памятайце, браты-сяляне, аб гэтым, калі Вас будзе клікаць на свае зьезды Паўлюкевіч. Ведайце, што едучы да яго на зьезд Вы мусіце прадаць душу Паўлюкевічу, бо іначай і Вас аблае жулікамі. А хто з вас, сяляне, ня ведае, што такое „жулік“, дык няхай, будучы ў Вільні, загляне на Вялікую вуліцу № 47 у быўшую салю „Паляс“ і ўбачыць, як там лаўкачы пры помачы машынаў ачышчаюць кішані сотням людзей.

У канцы заяўляю, што ў камітэт па справах самаўрадаў, створаны Паўлюкевічам, я ня ўпісваўся і ніякіх заяваў у гэтай справе не складаў.

З пашанай **П. Казюковіч**,
вёска Вазгелы, Маладэчанск. пав.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Буркоўскі Балеслаў** у в. Прудох. Грошы 5 зл. атрымалі; газэту па атрыманьні грошай зараз-жа высылаем. Просьбу Вашу аб прысланьні ўсіх нумароў ад № 1 споўніць ня можам, бо камплету папярэдніх нумароў Рэдакцыя ня маець.

**Марціновіч Міхась** у в. Бадзені. Газэту Вам стала пачынаем высылаць ад 24.XII.1926. Прысылайце падпісную плату.

**Шастак Лявон** у в. Іванковічах. Газэту Вам стала ад 24.XII 1927 будзем высылаць. Пасылаем Вам гэтак сама №№ 1, 2 і 3 „Беларускае Культуры“.





Рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.